Дасылаецца дармова. Пролетары усіх краёў злучайцеся!

# СЬВІТАНЬНЕ

№ 3.

Штомесячны літарат.-мастацкі дадатак да „Нашага Працаўніка“

1927 | СТУДЗЕНЬ | 1927

Падабед Язэп.

## ДА СОНЦА.

*(Прысьвячаецца 8-лецьцю БССР).*

Камяністы шлях і воля змагароў
і імкненьні, палкія бяз конца...
Праз пралітую ў змаганьні кроў
мы ідзём да агнявога сонца!

Не астылі душы—полымем гарэць,
хоць цяжар нязьмерны перанесьлі.
Пойдзеш ты наперад, любы край,
пойдзеш з маладою песьняй!

Нам нічога—камяністы шлях,
толькі-б не пагасьлі палкія імкненьні.
Мы ня будзем звонкіх дзён губляць
і ня схілімо у роспачы калені.

Можа не адзін, а шмат разоў
будзе кроў цячы, гарачая бяз конца—
праз пралітую ў змаганьні кроў
дойдзем мы да агнявога сонца!

Баявы імпэт ніколі не замрэ:
сьпеў ня змоўкне, не абарвуцца струны—
будзем загарацца і гарэць
на шляхох да Сонечнай Камуны!

К. Чарнякоў.

## МЯЦЕЛЬ.

Мароз трашчаў. Сьнег іскрыўся і чырванеў ад захадзіўшага сонца. Неба з усходу паступова чарнела і чарнела. Лес стаяў бяз усялякага руху, горда выпягнуўшыся і здавалася хацеў дастаць неба сваімі верхавінамі. Толькі гальлё гнулася ад насядаўшага на іх сьнегу. Было ўсё ціха, цудоўна: ціхі лес вялізарны; гэта поле ад іскрыўшагася сьнегу; гэты надыходзячы вечар.

Нібы, што сарвалася, шарахнула гордыя дрэвы з якіх, як дым, пасыпаўся сьнег; а гальлё ўзноў выпрасталася, пачуяўшы лёгкасьць. Гэта быў толькі парыў ветра. Усё заіскрылася і лес пачаў думаць сваю векавую думку. Зоркі неяк ласкава глядзелі на зямлю і ўхмыляліся. Толькі з поўдня нейкая вялікая шэрая пляма пасоўвалася ўсё бліжэй і бліжэй. Гэта была хмара. Усё прадвяшчала мяцель.

Маленькі ўпрэжаны ў сані конік, увесь у інеі, выйшаў з лесу і ціхім крокам ішоў па дарожцы.

На санях сядзеў нейкі доўгі, як жардзіна, мужык з рыжай казінай бародкай, з чырвоным угрыстым носам.

Апранут ён быў у доўгі кажух і маленькай шапцы, якая ў яго чуць трымалася на макушчы. На нагох у яго былі вялізныя лапці.

З хвіліны на хвіліну ён усё ямчэй і ямчэй падсьцёбываў свайго коніка.

—Но, мой конік, но, міленькі; а то я зусім замёрз, вось хутчэй прыедзем дамоў, дык я табе сянца дам.

Але-ж конік яго ня слухаў і йшоў сваім дробным крокам.

Мужык злаваўся.

Но, дохлы!—крычаў ён,—а то я вось пабе, і ён біў яго пугай Конік ад удару махне хвастом і пабяжыць свэй дробнай рысцой. Мужык садзіцца на месцы і пачынае думаць.

—А што мне сёньня зрабіць, ці заехаць крыху выпіць, ці не? а то ў мяне зусім кроў у жылах застыла Трэба заехаць у мястэчка, вып'ю і пагрэюся. А калі жонка узнае, што выпіў? Тады будзе ліха!—і ён зморшчыў свой твар. Не, лепш ня буду, лепш так даеду. І ён узноў пачын ў паганяць свайго коніка.

Але вось і мястэчка, дзе мужычок хацеў крыху выпіць. Яго конік узышоў на вуліцу і пайшоў па ёй.

Пачало цямнець. Як іскры пажару, гарэлі зоркі. Мужык паглядзеў на неба. У гэту хвіліну адна зорка, нібы адарвалася і паляцела па небу.

—Іш, ведзьма, паляцела,—падумаў ён;—грошы каму-та панесла. А добра, каб больш грошаў. Не, кажуць грошы ведзьміны хрышчонаму чалавеку ў прок ня йдуць, ды яшчэ і трасца эд іх якая прыкінецца; не, лепш бяз іх. Лепш мець меньш, але самім зароблены. І ён перахрысьціўся.

У гэты час яны параўняліся з хатай, куды ён заяжджаў выпіваць і пагрэцца. Яго конік, па прывычцы, падыйшоў да варот і спыніўся. Мужык раззлаваўся і хацеў сьцябануць яго, але раздумаў, зьлез з саней; адвязаў повад і падсядзелак, даў каню сена, а сам пайшоў у хату «грэцца».

Найшоўшыя хмары заслалі неба. Сьняжынка за сьняжынкай пачалі падаць на зямлю і кружыцца ў паветры. Дунуў моцны вецер, павалі ў сьнег; усё закруцілася, замуцілася і зьмяшалася ў адну кучу. Вецер парываньнямі хапаўся, выскаківаў з-за будынкаў і крупіў сьнег яшчэ мацней. Зрабілася адразу, так цёмна, што ў двух кроках нічога немагчыма было убачыць.

Конь сена даўно ўжо зьеў і калаціцца ад холаду: ён увесь быў засыпаны сьнегам і зрабіўся белым-белым.

Было ўжо каля гадзіны, як мужычок пашоў грэцца. Але вось ён вышаў з двара накіраваўся да сваіх саней. Ад яго так і несла самагонам, ногі яго гнуліся ў каленях і ня хацелі трымаць.

— Ну, што-ж і выпіў, але-ж за свае працоўныя грошы; а што жонка будзе крычаць, дык я ей во!—і ён зьвярнуў свой кулак заскрузлы і патрос ім.

Конік пачуўшы свайго гаспадара заіржаў і пацягнуўся да яго.

— Што засумаваўся альбо замёрз?—пытаў мужык Зараз паедзем, а што мяцель, дык нам напляваць; мы і ў мяцель даедзем. тутака ўсяго тры вярсты. І ён разьвязаў лейцы, сеў на сані і зьвярнуў каня на шлях.

Вецэр выў, сьвістаў, здаецца хацеў зьбіць з дарогі нашага падарожніка. Мужык крахцеў, варочаўся з боку на бок.

Даўно яны ўжо выехалі з мястэчка і ехалі па полю. Конік яго прытаміўся і значна паменшыў крок, апусьціў панура галаву і зоркі паглядываў па баках. Мяцель рабілася ўсё мацней і мацней, а вецер выў яшчэ больш і сьпяваў нейкія страшэнныя песьні, нібы каго х в ў.

Хутка пачалі пападацца адзін за другім кусьцікі; значыцца—хутка будзе вёска, куды ехаў мужык. Конь чуць цягнуўся. Вось паказалася вялізная шэрая пляма. Гэта быў стог з сенам. Конік хутка падышоў да яго, спыніўся і пачаў есьці. У гэту хвіліну мужык прачнуўся, зьлез з саней, пахадзіў каля коніка і нешта бармочучы ўзноў узлез на сані і згарнуўся калачыкам.

Яму адразу зрабілася неяк цёпла—цёпла і вельмі захацелася спаць. Яму здавалася, што ён прыехаў з заработку і сядзіць у сваёй хаце на лаўцы за сталом і есьць. Каля яго бегаюць дзеці, лазяць па яго каленях і пытаюць у яго падарунка, а ён глядзіць іх па галоўцы і вельмі здаволен імі А каля стала стаіць яго жонка і так весела і добра глядзіць на яго. Яму здавалася так добра, весела; так радасна б еццё яго сэрца, што чуць ня выскачыць з грудзеў. Вось жонка пасьцяліла яму на палатях, ён залез туды і накрыўся сваім кажухом. Сон мімаволі закрыў вочы і ён так салодка заснуў.

Вецер загуў над ім неяк мацней. Мяцель усё больш сыпала на яго і здавалася хацела мякчэй паслаць яму пасьцель, хацела накрыць бедняка. Вецер сьпяваў яму нейкія цудныя песьні, каб лепш спалася і каб ве не прачнуцца...

На другі дзень знайшлі мужыка замёрзлым.

м. Хоцімск.

Юлі Таўбін.

*Прысьвячаю Хоцімскім маладым паэтам—В. Радчанку і Н. Чубакову*

Новае далі,
Новыя песьні
Пеняцца плёскамі хваль...
Рвуцца паволі
У паднябесьсе,
Рвуцца ў бязьмежную даль.
Ў шуме шумлівых лясоў,—
Чую свабодных,
Новых напеваў
Песенны тахт юнакоў.
Цьвёрдаю сілай
Шыр'ю—раздольлем
Песьні ў просторы гучаць!..
Эх, нарадзілась
З новаю доляй
Новая юная раць!
І нарадзілась,
І разгулялась,—
Песьняй адвагай зьвініць.
Як ўскаласіла
Жыцьця новага
Новыя вольныя дні.
Як зазьвінелі
Новыя песьні,
Ўсьпеніліся плёскамі хваль
І паляцелі,
Як буравесьнік
Грозна ў бязьмежную даль.

---

Зьм Астапенка

## Думкі хваляй зпеляснуліся...

У блакітным у прасторы
Засінеліся казкай зоры.
Засінеліся казкай зоры,
А ў душы, бы хвалі ў моры,
Думкі роем зпеляснуліся.

Сёньня ўспомніў як калісьці
За вакном шумела лісьце.
За вакном шумела лісьце
У лістападным жаўталісьці
І кружылася ў разгульле.

І ў блакітнай сіняй далі
Завіваліся ў каралі,
Завіваліся ў каралі.
Што ні час—мацней сьпявалі.
Словы песьні не знаёмай.

Я тады нясьмелым вухам
Песьню гэтую падслухаў.
Песьню гэтую падслухаў
І—з нястрымным палкім духам
Завіхрыла песьня стромай.

І з-пад струнаў пераборау
Ажылі ў ёй казкі зораў,
Ажылі ў ёй казкі зораў,
Шэпты цьмянага прастору
І бадзёры дух юнацкі.

І цяпера песьняй тою
Я ганяюсь за вясною.
Я ганяюсь за вясною
З нястрыманаю хадою,
З песьняй-думкай заліхвацкай.

Сяргей Калугін.

Над абрывам
чорнагрывым
Дуб стары стаяў нахілам.
Там калісьці
У яго лісьцях
Песьні пеў пасту Гаўрыла.
Песьні волі
Па ўсім полі
Шапацелі з лісьцяў дуба.
І к усходу
Гдзе заводы
Ён глядзеў вачыма й думаў...

---

М Балотнік.

## ВОЛЬНАЯ БЕЛАРУСЬ.

Раней бізуп на ёй сьвістаў,
Раней яе душылі,
І сум заўсёды папаваў
Сярод народу у краіне.
Пад бізуном стагнаў забіты
Адвечнай крыўдай беларус,
Які ня мог казаць адкрыта
Пра цяжкасьць жыцьця і прымус.
Бо пан тады такіх караў
Сьмяротнай лютай карай,
Якой ніколі не жадаў
Паўстанец малады, бунтарны.
Тады стагналі, гібла многа
Заўжды пакрыўджаных людзей,
У якіх заўсёды іпла змога
За вольнасьць родзіны свайей!
Чаго хацелі, то і сталась,
Разьбіт цяпер прымус....
Дасюль усе слугамі зваліся,
Цяпер-жа—вольны беларус!

С. Анціпенка.

# НА НОВЫХ СЬЦЕЖКАХ.

*(Урывак з апавяданьня).*

...Перарадзілася Наталка пасьля першага лісту ад Янука. Яго словы: «Зараз грызу граніт навукі, каб аддаць яе на карысьць сваё цёмнае вёскі»,—кожны раз штурхамі яе наперад, да лепшага жыцьця. —«Вучыцца!.. Вось што патрэбна ў першую чаргу!..» —казала Наталка сваім падружкам, якія ня раз кідалі ёй дакоры:

—«Ці ня хочыш і ты вучыцца на тых вумніц. на якую ўжо вучыцца і твой Янук!.»

Словы—«Янук» наддавалі бадзёрасьці Наталцы. Яна што вечар чытала кніжкі, якія ёй з вялікай ахвотай даваў настаўнік Казельскае школы. Кожную нядзелю яна хадзіла да яго, каб узяць тыя ці іншыя парады, каб параіцца з ім, як з больш адукаваным чалавекам. І ўсё гэта рабіла Наталка з вялікай ахвотай з думкаю у галаве.—«Буду вучыцца, каб дапамагаць Януку ў яго вялікай справе».

Ня раз за гэта сыпаліся дакоры на Наталку з боку бацькі і маткі:—«Што ўжо, махля, кніжкі ды газэты!.. Хлеб яны табе дадуць?!»... Лепш ахвотней смаргала-бы ты кудзелю, дык сарочка лішняя была»..

Ня мала чаго выдумляла і гаварыла ўся вёска, але нішто не магло супыніць ужо Наталку ад намечанае мэты. У свабодны час кніжка і газэта сталі лепшым падругамі Наталкі. За адну зіму Наталка шмат і шмат чаго пазнала. Яна ўжо праўдзіва глядзела на вакольнае жыцьцё і тую цемру, якая акутвала цёмнае забітае сялянства. Яна ўжо стала сябрам ленінскага камсамолу, каб сумесна адзінай сілай, калектывам змагацца за новае жыцьцё

У гэтай напружнай працы Наталкі незаметна праляцелі тры гады.

Янук, які вьвярнуўся з сваё вучобы выглядаў пяпер іншым Януком. Безнадзейна плачучы ня так даўно, жалкуючыся на сваё гаротнае жыцьцё, ён зараз поўны бадзёрасьці і сілы прыступаў да працы ў вёсцы. Яго сумесная праца з Наталкай на паказальнай дзесяціне, атрыманай ім ад камітэту узаемадапамогі, дала ніколі нявіданыя сялянству вынікі. Паўтары сотні пудоў хлеба ў той час, калі сяляне бралі трыццаць, зваявалі аўтарытэт для Янука і Наталкі.

За адну восень у Камароўцы па ініцыятыве Янука, самім сялянствам была збудавана вялікая хата-чытальня, стаўшая асьветным асяродкам цёмнае вёскі Камароўкі. Паўсядненыя гутаркі, чытаньне часопісаў, кніжак і газэт, размаляваныя лёзунгі і плякаты на сьценах хаты-чытальні, заманівалі ня толькі моладзь, але цётак і дзядзькоў, якія ня раз пільна слухаючы словы Янука, альбо Наталкі, гаварылі сваім дзецям—«Вучыцеся так, як Янук альбо Наталка, дык і вы будзеце людзьмі».

Мінуў яшчэ год і ў самым цэнтру Камароўкі, стаў пышна—ганарліва доўгі з грудамі шчэпак навакол з смаляністым сьвежым пахам, толькі што адбудаваны будынак з надпісам—«Камароўская вясковая школа».

У сваёй калектыўнай працы пад кіраўніцтвам Янука, сялянства ніколькі не адчувала цяжкасьці ў той вялікай працы, якая ўжо была праароблена за такі кароткі час

За тры гады ўпартай працы Янука і Наталкі, перарадзілася Камароўка. Доўгія вузкія з горбікам пасярэдзіне загоны, былі пабіты на шырокія паласы, разьбітыя ў сваю чаргу на дзевяць палёў, на якіх акрамя заўсядашняга збожжа з бульбай віднелася яшчэ рослая густая з кучмастымі чырвонымі галоўкамі канюшына. Віднелася поле вікі з сарадэлай, а паўзсамых гародаў пягнуўся вялікі кавалак з доўгімі шырокімі радамі вялізнае кучмастае батвы, з пад якое выглядалі белыя, буйныя карняплоды турнэпсу. Лыпаючая ня так даўно на Камароўскім папару голую зямлю жывёла стаяла цяпер у хлявох з смакам уплётываючы вынікі шматпольнае працы Камароўцаў. Малако, мяса, жыры, якімі можна было разгавецца толькі ў вялікодны дзень, сталі цяпер у вялікім дастатку. Упартая калектыўная праца, на якую штурхануў Янук сялянства за адну зіму к вясьне дала вынік таго, што ля самае вёскі Камароўкі ўзьнялася нібы з зямлі вялікая малочная ферма.

Мінулі яшчэ два гады і на Камароўскім полі, запыхцеў злосна равучы трактар, адкідваючы скібу за скібай чорнай воранай зямлі.

Кучай сабраўшыся ад старога да малога Камароўцы з радасным выглядам тварэў, пазіралі то на злосна пыхцеўшы трактар, то на Наталку з Януком, якія узяўшыся за рукі шчасьліва ўхмыляліся.

г. Амсьціслаў.

Янка Панамароў.

Сьпевы ночкай яснаю,
Пекнатою, бляскам,
Сьпевы ночкай дзіўнаю,
Ладзілісь ў душы...

Ціхія, мінорныя,
Гукі не задорныя
Высака пад просіньню,
Ніклі познай восеньню.

Ніклі познай восеньню
Недзе у глушы....
Зоркі... срэбны месячык,
Над зямлёй павесячысь.

На зямлю маўклівую
Сьвет свой разьлілі...
І бягуць ўдаль сьцёжачкі,
Па баках бярозачкі

У прастор пязьмераны
І праз лесу шэраньні
І праз шыр—ночі....
Ой, вы сьцёжкі, сьцёжачкі

На баках бярозачкі,
Колькі ў вас, прывабныя,
Колькі пекнаты....

. . . . . . .

Праўда, восень шэрая,
Пекнаты ня мерае.
Дзьмухне ветрам-холадам,
Што вясны ёй моладасьць.

Што вясна ёй моладасьць,—
Зелень і кусты.....

. . . . . . .
. . . . . . .

Аркадзь Дуда

## Я сьпяваю....

Эх, гармонька мая, трохрадовая
Закруці камсамольскую ты!
Я сягоньня сьпяваю пра новае
З маладняцкім уздымам ў грудзі.

Ну скажэце, вы людзі сялянскія,
Адкажэце—чаго-ж сумаваць?
Праміналі дні цяжкія, панскія—
Беларусь трэба нам будаваць.

Пойдзем-крокамі сьмела-бадзёрымі,
Пойдзем—з вёскі наперад к жыцьцю,
Пойдзем—разам з рабочымі гораду,
Пойдзам з цемрай вясьці барацьбу.

У «Маладняк»! Людзі нова-аратыя,
У тахт ўсходзячаму сонцу
сьпяваць,
Край зруйнованы зьбітьі гарматамі
Трактарамі нанова араць!

«Маладняк»—гэта сіла сталёвая,
Бурапенная плынь што ў вясну,
«Маладняк,» гэта раньне пунсовае,
Што ўзбуджае заспаўшых ад сну.

. . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . .

Я юнак, ў мяне думкі бурлівыя
Я вясёлы, чаго-ж сумаваць?
Весяліцеся вербы плаклівыя.—
Залічылі мяне ў «Маладняк».

Эх, зайграй-жа гармонька вясковая
Закруці камсамольскую ты!
Я сьпяваю сягоньня пра новае
З маладняцкім уздымам ў грудзі.

## У „МАЛАДНЯКУ“.

За апошні час выйшлі з друку ў маладнякоўскай кніжніцы:

1. М. Зарэцкага: „42 дакуманты“. (апав.)
2. Р. Мурашк: „Стрэл начны ў лесе“ (апав.)
3. А. Дудара: „І залацісьцей і сталёвей“ (верш.)
4. В. Маракова: „Пялёсткі“ (вершы)
5. М. Чарота: „Ленін“ (паэма)
6. Гаўрука: „Вясковыя рыскі“ (нарыс)

Вышаў з друку „Маладняк“ № 9. З гэтага нумару гэта часопісь зьяўляецца органам ЦБ „Маладняка“ і павінна будзе на сваіх старонках узгадоўваць лепшыя літаратурныя сілы ўсіх акруговых філіяў.

**„Задача мастака—ня ў тым, каб ён стаў летапісцам сваіх настрояў, каб ён „занатовываў усё, што нойдзе яму на розум“. Мастак павінен выявіць АСНОЎНЫ характар сваіх эмоцый (пачуцьцяў) у форме вобразаў Ён павінен умець перамагчы і адкінуць усё выпадковае, пабочнае, наноснае, супярэчнае яго асноўнаму мастацкаму складу.“**

**...Другая задача ў тым, каб мастак пастаянна і безперарыўна знаходзіўся ў суладжанасьці з лепшымі ідэямі і пачуцьцямі свайго веку.**

**У наш час гэта—камунізм, барацьба за поўнае сацыяльнае вызваленьне працоўнага чалавецтва. А. Варонскі.**

Р. Бяздольны.

## ЖЫЦЬЦЁВАЯ ПРАЎДА.

(Урывак з апавяданьня „Забойства сялькора")

Празванілі званы і перасталі. Асеньняе сонца пачало слаба асьвятляць схіліўшыйся на бок крыж калакольні.

«Ну і народ-жа цяпер, ліха каб яму было»,—прабурчэў сабе пад нос забегайлаўскі поп, ішоўшы ў царкву служыць абедню.

Заместа таго, каб пайсьці ў царкву, усе сяляне пашлі ў чытальню. Акрамя Мікалая Лаўрэнавіча—былога старшыні і гарбатай шаптухі-Мільяніхі, нікога ў царквы ня было.

«Нечага ісьці і абедню служыць, бо акрамя мільянаўнай ляпешкі нічога ня выслужыш. Але трэба ісьці»,—рашыў поп і пачаў узьбірацца на ганак сельскай невялічкай царквы.

Тут сустрэў яго царкоўны стараста—Ціхон Паўлавіч. Ён пацалаваў яго ў руку, ад якой ванела прэлым табаком і пачаў жаліцца на тое, што перасталі хадзіць у царкву.—І ўсё гэта праз жыдоў,—адказваў поп.

—«Не, Панафіл Кліменціч, жыды тут не вінаваты. Яны самі перасталі веравацьу бога»,—развудным тонам пачаў гаварыць стараста.

—Але вось-як прышоў з Чырвонай арміі Сяргей Нясьмелы, то прышла з імі і ўся наша бяда. Учора я чытаў газэту «Наш Працаўнік» і ў гэтым то працаўніку пішацца, як наш гандляр—Патапіч, абдурывае і абдзірае сялян. Напісаў гэта відаць Нясьмелы, бо сын Мікалая Лаўрэныча служа ў пошці і ён відаў, як раз гэты Нясьмелы прынесіў пісьмо ў рэдакцыю. Ён хапеў гэта пісьмо схаваць сабе, але чорт нагнаў у гэты час равізію і было не магчыма —

—«Відаць гэты Нясьмелы і пра мяне напісаў у «Савецкай Беларусі»? гэта на пасху было дзела,—вылупіўшы вочы гаварыў Панафіл Кліменціч.

Але пайдзем у божы храм, а то... ужо позна, трэба абедню як-небудзь адслужыць. А ты Ціхон Паўлавіч, ідзі памацай у Мільяніхі ляпешку. Калі добрая, вазьмі яе, каб лпа з ёй ня трымалася. А калі кепская, аддай сторажу.

Абое яны перахрысьціліся, іх сьпіны схаваліся за дзьвярамі царквы, якія былі збіты бляхай.

---

У гэты час невялікая сялянская хата, сьцены якой былі абклеяны плякатамі і партрэтамі, была бітком набіта сялянамі. Часта было чуваць піск грудных дзяцей, сядзеўшых на руках у сваіх матак. Каля вялікага стала сядзеў сакратар камсамольскай ячэйкі. Проці яго стаяў Нясьмелы і праводзіў гутарку аб карысьці газэт.

Усе слухалі з увагай. Пасьля гэтага сакратар пачаў чытаць газэту «Наш Працаўнік».

Раптам пачуўся вясёлы сьмех. Чыталі заметку пра мясцовага гандляра.

—Хто-ж гэта напісаў і адкуль яны гэта там знаюць? пачалі пытацца некаторыя бабы.

Псяўдокім—«вока», чуць стрымліваючыся ад сьмеху, адказаў Янка-сакратар.

—Ну і.... Домніна вока,—пачалі жартаваць сяляне і ў чытальні паліўся вясёлы сьмех.

---

Сонца схавалася за гарызонтам і на захадзе чырванела неба. Па вуліцы хадзілі дзяўчаты і пелі частушкі:

«Ня было-б калі Марыі,
Ня было-б Івана.
Ня было-б калі папоў,
Ня было-б дурмана».

Пападзьдзя, неадкуль ішоўшы, бурчэла сабе пад нос «папяюць яны чэрці гэтыя, а вянчацца прыдуць у царкву, я ім задам».

А дзяўчаты весялей сьпявалі. Яны добра ведаюць цану царкве. Яны ўжо ня пойдуць туды.

# Бібліаграфія.

**М. Зарэцкага „42 дакуманты". Р. Мурашкі: „Стрэл начны ў лесе" і А. Дудара: „І залацісьцей і сталёвай".—выданьне ЦБ „Маладняка". Менск. 1926 г.**

Два з гэтых таварышоў—Зарэцкі і Дудар —выступаюць з асобнымі зборнічкамі ня першы раз. Яны вядомы беларускаму чытаючаму жыхарству і аб іх мы мы будзем казаць вельмі коратка.

М. Зарэцкі падносіць чытачу два апавяданьні: „42 дакуманты" і „Двое Жвіроўскіх". Першае з іх цікава па сваёй форме: апавяданьне складаецца з кучы пратаколаў, пастаноў, тэлеграм, загадаў, асабовай перапіскі і інш. Усё гэта між сабою падтасована і нагадвае занатаваную кіно-фільму. Зьмест—барацьба з шпйкай конт-рэвалюцыі. Апавяданьне чытаецца з захапленьнем, цікавае, але ня глыбокае. „Двое Жвіроўскіх"—кусочак пасьлярэвалюцыйнага быту. Жвіроўскі—царскі чынадрал—хоча, імкнецца выхоўваць сына ў варожым дусе да савецкае ўлады. Ен вучыць сына быць двулічным: сярод піанэраў—прыкідвайся што ты з імі, але ў душы —будзь іх вораг. Канчаецца справа тым, што бацька выганяе сына: ён і душою стаў піанэрам.

Ал. Дудар—бяспрэчна, як паэта, расьце. „І залацісьцей і сталёвай"—ярка паказвае гэта. Увесь зборнічак—пылкае імкненьне наперад, малады задор! Праўда, ёсьць некаторыя недагляды, некаторыя вершы аддаюць „публіцыстыкай".

Р. Мурашка выступае з першым зборнічкам, у якім зьмяшчае 5 маленькіх апавяданьняў —малюнкаў—(ні воднага з іх сталым апавяданьнем нельга зваць.) Лепшымі апавяданьнямі трэба лічыць—верш у прозе: „Стрэл начны ў лесе", і „Бросьня вясновая" і „Каваль Максім".

Забойства сялькораў, зьдзек белапалякаў над беларускімі сялянамі, пралазеньне варожых нам элементаў у нашы (савецкія) апараты, адміраньне рэлігійных абрадаў—вось зьмест апавяданьняў—малюнкаў маладога празаіка, т. Мурашкі. Тэматыка самая разнастайная. Стыль лёгкі, але неапрацаваны.

Па гэтым першым зборнічку цяжка казаць аб Мурашку, як пісьменьніку.

Усе тры кніжачкі будуць чытацца лёгка, з ахвотай (асабліва моладзьдзю) і будуць уліваць у масы, здаровы настрой. З надворнага боку—выданы добра, з асобнымі малюнкамі дзеля кожнай кніжачкі, што трэба віташь.

**К. КАГАНОВІЧ.**

# Паштовая скрынка.

—Янку ГОМАНАВУ: „Зажынкавае", „Ой, прышла, зацьвіла вясна" і некаторыя іншыя вершы друкавацца ня будуць. Дасылай новыя вершы. Пішы—няхай ня змаўкае глыбока-лірычная песьня.

—ПІВАВАРАВУ (Чэрыкаў). Ты нешта замоўк. Пішы. Чакаем новых твораў.

—ПАНЦЯЛЕЯВУ, Янку: Гэтак сама. Калінінская філія „Маладняка" залічыла цябе сваім сябром.

—Ал. МАЛДАВАНАВУ: Аб якім гэта вы троне гаворыце ў сваіх вершах? Не ганяйцеся за рыфмаю заумнаю, а больш сачыце за зьместам.

—Юр. ФРАЛОВУ (Чэрыкаў)—„Бой", „Зіма"— да друку не гадзяцца. Вывучай белмову, азнаёмся дасканала з тэхнікай вершаскладаньня. Больш чытай з літаратуры.

—Юлію ТАЎБІНУ: Вершы: „Гады прайшлі", „З вячэрніх матываў", „Расьцвітае сэрца", „У таемнай сіні вечароў"—пойдуць у чарговых нумарох „Сьвітаньня" „Зорную ноч" і „Раніцаю" —друкаваць ня будзем. Абедзьве рэчы цікавы, як спробы пераняць дасягненьні старэйшых таварышоў (у данным выпадку—Багдановіча і Бальманта). Праца карысная і патрэбная. Ты, відаць, дужа зьвяртаеш увагу на форму і псуеш зьмест. Напр.: „горад—волат сьпіць, замоўк, застыў... раніцою" і зараз-жа: ...„горад тоне ў прызыўных гудкох... раніцою". Адначасова горад у двух станах. Дасылай, калі будуць больш сталыя дасягненьні—надрукуем.

—С. КАЛУГІНУ: Адзін верш друкуем, а больш ня будзем: слабыя з боку зьместу. Дзеля прыкладу, ты пішаш: ...„каб ніхто нам не зазасьціў быць у ўласьці (?), гады ў вёсцы гэтак хлёстка сваёй воляй мы шматпольле уводзілі-б...". Зусім ня вытрымана ні з палітычнага, ні з жыцьцёвага боку. З боку формы ты шагнуў наперад вялікі крок.

—С. ДУБРОВЕ (Самацеевічы)—„Маладнякоўцы"—ня пойдуць. Трэба быць больш скромнымі, сачыць як пішуць старэйшыя паэты і старанна вучыцца ў іх. Калі вы напісалі пару—дзьве вершаў—дык гэта ня значыць, што вы—паэты.

—М. БАЛОТНІКУ: Крытычныя заўвагі Кагановіча пашлі табе ў карысьць. Ты з гэтым і сам згодзен у пісьме да т. Кагановіча. Жадаем добрых посьпехаў у гэтым напрамку, а зараз адзначаем, што пачатак іх ёсьць. Адзін верш друкуем, а другі—ня будзем. Працуй, дасылай.

—П. ШЫНКАРОВУ: Вершы і ліст Кагановічу атрымалі. Уласная творчасьць у вас з боку формы слабенькая: відаць, ня ведаеце тэорыі вершаскладаньня. У некаторых вершах ... ноткі пэсімізму. Вершаў друкаваць ня будзем.

М. АНДРЭЯНКУ, П. СКОКАВУ, П. КІСЯЛЕВУ, Я. ДЗЬМІТРАЧЭНКУ, Я. ТРУШКОВУ, Е. ГОРДЗЕНУ, Я. ФЕДАРОВІЧУ, М. СІДАРЭНКУ, У. САВАСЬЦЬЯНАВУ, П. НЕСЬЦЯРАВУ—вашы вершы вельмі слабыя, альбо адна проза і друкаваць няма жаднае карысьці.

РАМАНУ ЛЯШКО: Ні воднага вершу з новага жмута тваіх вершаў друкававацца ня будзе. Формы ў вершах—ніякай. Зьмест вельмі-ж наіўны. У вершу «Расьпіска» ты даеш дзяўчыне расьпіску ў тым, што будзеш яе кахаць праз доўгія гады. Не расьпіскамі замацоўваюць на доўгія гады каханьне! Альбо ў вершу „У окна" ты перадаеш словы камсамолкі: „я ўступіла ў КСМ, буду аддавацца працы ў ячэйцы і цябе больш любіць ня буду." Вось яно як! Комсамол,

шаноўны тав. Ляшко, не манастыр, куды паступаюць у манашкі.

Што адносіцца ліста да т. т. Юргялевіча і Кагановічу, дык ён паказвае, што з цябе могбы выйці добры публіцисты. Па сутнасьці лісту, дык трэба адзначыць, што адказ т. Кагановіча быў некалькі рэзкі, але ў аснаўным правільны.

С. АНЦІПЕНКУ: Вершы, якія ты раней прыслаў—ня пойдуць. Урывак з апавяданьня: „На новых сьцежках"—друкуем. Усяго не зьмясьцілі затым, што доўгае і па другое пачатак нагадвае пачатак апавяданьня „Пастух Сымон". Раім абмінаць гэту хібу, бо твае апавяданьні будуць шаблонныя, падобны адно на другое, што ня дужа добра. Старайся працаваць над стылем апавяданьняў і надавай больш мастацкасьці, каб яны ня былі „протокольнымі".

У. СУДЗІЛОЎСКАМУ: Вершы: „Зімні вечар", „І ў нудных сялянскіх палетках"—у друк ня пойдуць.

Я. ПАНАМАРАВУ: Частка з вершаў: „Чырваньню захад ўвесь пазалочан", „Гасьцінцы родныя", Новая вёска", „Мне пела ракіта", „Сонца косы тчэ", „Міноры"—часкта з іх пойдзе ў наступных нумарох.

З. АСТАПЕНКУ: Вершы: „Касавіца", „Я пайду туды", „Каля замкавай гары", з паэмы „Мінуўшчына", „Агняцьвет"—пойдуць ў [illegible]ных нумарох.

—М. БЕЛЯНКОВУ: „Ні было што раней", „Вайна пры цары", „Сьмерць салдата", „Вайна", „Катаржнік", Дзевятага студзеня", „На суд крывапійцаў", „Сон п'янага Рыгора", „Загінулі брацьце", „Новы сьвет", „Жыцьцё Масея Белянкова"—усе вышэйпералічаныя вершы ня пойдуць у друк. Вельмі жаль, але нічога не паробіш. Мова ў цябе да немажлівасьці пакалечана. Некаторыя вершы гладкія, але па свайму зьместу прадстаўляюць пераказы вядомых у народзе песень („Сьмерць салдата"), а большасьць вершаў—слабыя. Здольнасьці ў цябе ёсьць, але трэба упарта працаваць над разьвіцьцём сваім.

—Я. ШЫКІНУ: Атрымалі жмут тваіх частушак. Пладавіты ты працаўнік. Але вось бяда: з боку зьместу многія частушкі адстаюць ад сучаснасьці, ад нашых дзён.

Дзеля прыкладу:

„Бей па пузу кулакоў!
Мы ўсе моцнаю рукою
Зараз пана разатром
І працоўнаю рукою
Ў клешчы ушчамём"...

Савецкая улада і кампартыя змагаюцца з кулаком іншымі спосабамі, чым тыя, аб якіх ты пішаш. Падналяж на палітразьвіцьцё і больш чытай з навейшай літаратуры. Не ганіся за многасьцю частушак і вершаў, а працуй над іх якасьцю.

—М. АЎСЯНЬНІКАВУ, М. АСТАПЕНКУ, М. МІКІТАВУ—вашы вершы да друку не падыходзяць,—слабыя з боку формы нават рытму няма, а ня то, каб іншых адзнак паэзіі і вершу.

—А. ДУДЗЕ: „Торны шлях", „Напеў Працы", „Маладняк", „Пажар", „Кончыўся дзень"—у друк ня пойдуць. „Я сьпяваю"—друкуем. У цябе бязспрэчна талент паэта ёсьць. Трэба яго паглыбляць больш стала.

Дасылай новыя рэчы—з прыемнасьцю надрукуем.

У вершу „Я сьпяваю" ёсьць некаторая ня вытрыманая размашыстасьць: у „Маладняк" заклікаць трэба ня толькі людзей—„нова-аратых", але і рабочых гораду.

—С. КАВАЛЮ: „Поп самагоншчык"—зараз друкаваць ня будзем. Есьць у вас досыць трапныя бытавыя абразкі, але ў цэлым апавяданьне з мастацкага боку слабае. Зьмест—сучасны і цікавы. Спрабуйце пераапрацаваць яго, каб яно вышла больш сьціслым, мастацкім і крэпкім і перашліце нам—надрукуем.

—П. БЯРОЗЦЫ: „Люблю мой край", „Восень", „Сатыра"—друкаваць ня будзем. Трэба адзначыць, што вершы твае ніштаватыя з боку апрацоўкі. Такія выразы, як: „А што Грышку, ды Мікіту білі ўсе, як па карыту", альбо: „ад нас бяжалі каты, а іх давілі, як клапоў"—досыць удалыя. Друкаваць нельга, тэмы ізьбітыя („Люблю мой край"), альбо вельмі дробныя („Сатыра"). Пішы.

—Р. БЯЗДОЛЬНАМУ: Урывак з твайго апапяданьня, як бачыш, друкуем. Пісаць у цябе здольнасьці ёсьць—асабліва добра ўдаюцца бытавыя мясьціны. Дасылай новыя рэчы.

—Ю. ФЯДОСАВУ—ВАСІЛЕЎСКАМУ: Верш „Прачыстая" можаце надрукаваць у насьценгазэце, для „Сьвітаньня" ён не падыходзіць: факт мае вузкае мясцовае значэньне.

—М. АБРАМЕНКУ (Хоцімск): „У чужым кутку" і „Песьня юнака"—ня пойдуць у друк.

—П. КРЫВАНОСАВУ: Вашы вершы ўжо некалькі разоў друкаваліся на старонках „Нашага Працаўніка". На жаль, апошнія два вершы: „Малады дубняк" і „Міхал—ваявода" надрукаваць ня можам. Працуйце больш над формай вершаў, ня старайцеся рабіць такіх доўгіх радкоў (...„Узыйшоў на працоўнай і вольнай зямлі..."). Дасылайце новыя рэчы.

—М. ЖАЛЕЙЦЫ: „На лядзе", „О [illegible] край", „Сэрца б'ецца"—ня пойдуць.